# Голас Радзімы

№ 37 (2023)
10 верасня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Чола Кукуладзе — заслужаны мастак Грузінскай ССР. Ён аўтар многіх жывапісных палотнаў, графічных аркушаў. Работы прысвечаны самым розным бакам жыцця краіны. Але тэма вайны займае ў творчасці мастака гал[illegible] месца. Яшчэ з ваенных год Чолу Уладзіміравіча [illegible]ае звязвае з беларускай зямлёй. Пра лёс гэтага чалавека чытайце ў карэспандэнцыі «Памяць сэрца» на 3-й стар.

**НА ЗДЫМКАХ:** былы беларускі партызан заслужаны мастак Грузінскай ССР Чола **КУКУЛАДЗЕ**; мастак з дзецьмі з вуліцы імя Мікалая Гастэлы ў Сухумі; Ч. **КУКУЛАДЗЕ** ў гасцях у былых партызан Красновых, якія цяпер жывуць у Мінску.

Фота А. ТАЛОЧКІ.



АНТЫВАЕННЫ РУХ

## РАБОЧЫЯ ЗА МІР

1 верасня ў зале Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў прадстаўнікі працоўных і грамадскасці горада-героя Мінска правялі антываенны мітынг, прысвечаны Дню прафсаюзных дзеянняў за мір.

Самааддананай высокапрадукцыйнай працай адзначаны вахты міру, праведзеныя на многіх прамысловых прадпрыемствах беларускай сталіцы, частка заробленых сродкаў перададзена ў Фонд міру, сказаў, адкрываючы мітынг, сакратар Мінскага абласнога савета прафсаюзаў М. Хаванскі.

На мітынгу выступілі таксама старшыня аблсаўпрофа А. Мартысюк, намеснік старшыні Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны В. Кандрашаў, генеральны сакратар Італьянскай канфедэрацыі прафсаюзаў працоўных вобласці Эмілія-Раманья Лівіо Філіпі.

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой аднагалосна падтрымалі знешнепалітычны курс КПСС і Савецкага ўрада.

Урокі міру ў школах, мітынгі і сходы ў працоўных калектывах і іншыя мерапрыемствы, прысвечаныя Сусветнаму дню міру і Дню прафсаюзных дзеянняў за мір, прайшлі ва ўсіх кутках рэспублікі.

СХОДЫ

## У ГОНАР НАЦЫЯНАЛЬНАГА СВЯТА

Адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных Мінска, прысвечаны нацыянальнаму святу Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам — 42-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці.

Даклад зрабіў намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-в'етнамскай дружбы, намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР С. Малевіч.

На сходзе выступіў прэзідэнт зямляцтва в'етнамскіх студэнтаў і аспірантаў, якія вучацца ў Мінску, Май Тхань Уонг.

У рабоце схода прынялі ўдзел намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай. Прысутнічалі генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда і консул генеральнага консульства ПНР у Мінску Б. Ломпесь.

НОВАЯ ТЭХНАЛОГІЯ

## УНІКАЛЬНЫ ЦЭХ

Яшчэ адно прадпрыемства рэспублікі — Бярозаўскі сыраробны камбінат — перайшло на безадходную тэхналогію. Тут пачаў дзейнічаць цэх па перапрацоўцы сыроваткі. Раней гэтаму пабочнаму прадукту быў толькі адзін шлях — на ферму. Цяпер з яго атрымліваюць малочны цукар і бялок — кампаненты, якія значна павышаюць біялагічную каштоўнасць дзіцячага харчавання, маянэзу, маргарыну, медпрэпаратаў.

Цэх у Бярозе — унікальны. Гэта першае на Беларусі прадпрыемства, дзе сыроватка перапрацоўваецца шляхам ультрафільтрацыі. Найноўшая тэхналогія ў многа разоў павышае прадукцыйнасць працы — усім складаным працэсам кіруюць некалькі апаратараў. За суткі яны выдаюць да чатырох тон прадукцыі — значна больш, чым іх вырабляюць на ўсіх іншых камбінатах рэспублікі.

НОВЫ УНІВЕРСАМ



У Гродне адчыніў свае дзверы для пакупнікоў новы універсам «Брэст». Нездарма ён падабаецца гаспадыням: тут ёсць вялікі выбар хлеба-булачных вырабаў, малочных, мясных, гароднiны.

НА БЕЛАРУСКІМ МЕТАЛУРГІЧНЫМ



Паэтапным уводам у строй дзеючых аўтаматычных ліній па вытворчасці васьмі відаў металакорду для аўтамабільных шын пачаты пуск другой чаргі Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне. Выпусціць гатовы металакорд намечана напярэдадні 70-годдзя Вялікага Кастрычніка, а не 15 снежня, як прадугледжвалася кантрактам з аўстрыйскім канцэрнам «Фёст-Альпіне» і італьянскай фірмай «Даніелі». Гэта сумеснае рашэнне беларускіх металургаў і замежных спецыялістаў, якія праектуюць другую і трэцюю чэргі завода і вырабляюць абсталяванне.

З поўным уводам другой чаргі тут будзе вырабляцца 25 тысяч тон металакорду, а таксама вялікая колькасць легіраванага пракату і катанкі для іншых прадпрыемстваў краіны.

НА ЗДЫМКУ: дырэктар завода Міхаіл ЦІХАНОЎСКІ націскае кнопку пуску першай лініі ўчастка грубага валачэння.

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## АДКРЫЎСЯ САНАТОРЫЙ-ПРАФІЛАКТОРЫЙ

Літаральна некалькі мінут хадзьбы ад праходной аб'яднання «Бабруйскдрэў» да ...ытага ў зялёнай зоне санаторыя-п...філакторыя, які пабудаваны ўласнымі сіламі. Здраўніца разлічана на сто месцаў. Тут створаны добрыя ўмовы не толькі для адпачынку, але і прафілактычнага лячэння. У спецыяльным корпусе сканцэнтраваны вода- і гразелячэбніца, пакоі псіхалагічнай разгрузкі, электрасну, лячэбнай фізкульту...

Зараз у ...гілёўскай вобласці працуе васемнаццаць санаторыяў-прафілакторыяў, больш трыццаці баз адпачынку, у якіх штогод адпачывае каля трыццаці тысяч чалавек.

КІРМАШЫ

## ДЗЕНЬ МАЙСТРА

Так называлася свята-выстаўка, праведзенае ў Гродне работнікамі Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі разам з абласным аддзяленнем Савецкага фонду культуры.

Для ўдзелу ў святе былі запрошаны народныя ўмельцы Гродзеншчыны, выстаўлены іх работы: жывапіс, разьба па дрэву, кераміка, карункі. Экспанаты, якія спадабаліся, можна было тут жа набыць.

Экспанаваліся таксама работы народных майстроў, сабраныя супрацоўнікамі музея ў паездках па іншых абласцях рэспублікі. Сярод іх сюжэтныя цацкі, абрусы, ручнікі, вырабы з саломкі — беларускія капелюшы, цукерніцы.

КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

## «ПЕСНЯ-87» У КАЛГАСЕ

Чарговую перадачу «Песня-87» Цэнтральнае тэлебачанне запісала ў калгасе «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. Кветкамі і апладысментамі сустракалі вяскоўцы вядомых эстрадных выканаўцаў Надзею Чапрагу, Льва Лешчанку, Валерыя Лявонцьева, ансамблі «Песняры», «Сябры» і іншых удзельнікаў тэлепраграмы.

«Песня-87» супала з хлебаробскім святам. Шумеў-гудзеў на плошчы ў Расне маляўнічы кірмаш, выступалі самадзейныя мастацкія калектывы, праводзіліся забаўныя конкурсы, а побач ля Музея хлеба г...лі новыя эстрадныя мелодыі.

Так паўнапраўнымі сааўтарамі папулярнай тэлеперадачы сталі тысячы жыхароў вёсак Камянецкага раёна.

НА НОВЫМ МЕСЦЫ

## ЗОНА АСОБА... УВАГІ

Заказ на ўзвядзенне жылля для перасяленцаў з раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі ў Чарнобылі, на два тыдні раней тэрміну выканалі будаўнічыя арганізацыі Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР. У Рэчыцкім, Петрыкаўскім і Кармянскім раёнах яны ўзвялі больш за 400 дамоў.

...Пяцьдзесят катэджаў пабудавана ў вёсцы Мілаград Рэчыцкага раёна. Месца тут цудоўнае: побач Днепр, лес, луг, малады сад. Зборныя дамы, канструкцыі якіх прыслалі лесаводы Архангельскай і Іркуцкай абласцей, абклалі цэглай. У катэджах катлы для аўтаматызаванага ацяплення, ванны, санвузлы. Ля кожнага дома — сад, агарод, у глыбіні двара — прасторныя пабудовы для свойскай жывёлы.

Адзінымі інтарэсамі з мясцовымі землярobамі жывуць усе перасяленцы.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## «ІНТЭРКОСМАС» РАЗЦОМ СКУЛЬПТАРА

Пакуль міжнародны касмічны экіпаж, у складзе якога былі Аляксандр Вікторэнка і грамадзянін Сірыйскай Арабскай Рэспублікі Мухамед Фарыс, восем сутак напружана працаваў на каляземнай арбіце, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР беларускі скульптар І. Міско працаваў, не пакідаючы майстэрні. Да пасадкі карабля «Саюз ТМ» новая кампазіцыя была завершана. Неўзабаве твор будзе адліты ў бронзе. Гэты групавы партрэт папоўніць серыю «Інтэркосмас», пачатую скульптарам пасля першага міжнароднага касмічнага палёту.

Мінскі скульптар маляваў і ляпіў з натуры абодвух касманаўтаў яшчэ да старта, у час трэніровак і заняткаў у Зорным гарадку і на адпачынку. Накіды і назіранні дапамаглі яму стварыць яркія, запамінальныя вобразы «зорных братоў».

І. Міско мае намер перадаць гэтую работу Сірыі, у падарунак землякам першага арабскага касманаўта.

ВЫСТАЎКІ

## ЭКСПАНУЕЦЦА ВА УРУГВАІ

Рэкордную колькасць наведвальнікаў сабрала сёлета міжнародная жывёлагадоўчая выстаўка, якая па традыцыі праводзілася ў Прада — паркавым раёне ўругвайскай сталіцы.

Сваю прадукцыю дэманстравалі на выстаўцы многія краіны свету. Наведвальнікі змаглі пазнаёміцца з сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікай, таварамі для жывёлагадоўчых гаспадарак, узорамі экспартнай прадукцыі.

Савецкі Саюз прадставіў на выстаўцы трактары «Беларусь», якімі з 1980 года гандлюе ва Уругваі фірма «Фімека». Ужо прададзена каля 400 трактароў гэтай маркі.

РЭСТАЎРАЦЫЯ

## ДОМ НА РАБКОРАЎСКАЙ

На Рабкораўскай вуліцы ў Мінску побач з высокімі сучаснымі жылымі дамамі будаўнікі «Белрэстаўрацыі» ўручную (механізмы тут прымяняць нельга) аднаўляюць сціплы драўляны домік на пяць пакояў з верандай і звычайным ганкам. Будынкі такога тыпу захаваліся толькі на ўскраінах сталіцы. І то жыццё іх недаўгавечнае. А гэты домік па праекту архітэктара Лакатко будзе жыць доўга. Раней ён стаяў на вуліцы Талстога, але ў сувязі з вялікім будаўніцтвам было вырашана перанесці яго на Рабкораўскую. У 1916 годзе ў гэтым доме жылі два карыфеі беларускай літаратуры — блізкія сябры Змітрок Бядуля і Максім Багдановіч. Жылі на кватэры ў сясцёр Бядулі. Тут пісьменнікі шмат і плённа працавалі.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Адшумела жніво на нівах Беларусі, клопат земляроба — пра будучы ўраджай. Сеюць жыта і азімую пшаніцу. Па добра падрыхтаванай і ўгноенай глебе вядуць сяўбу азімых механізатары калгаса «XXV партз'езд» Пастаўскага раёна. Работа арганізавана тут у дзве змены.

ЗНАХОДКІ

## АРАБСКІЯ ДЫРХЕМЫ

Бульдазерыст С. Буйкоўскі праводзіў меліярацыйныя работы каля вёскі Ракаўцы Смаргонскага раёна. Разраўноўваючы поле, ён зняў верхні слой глебы. І тут Станіслаў Міхайлавіч убачыў кавалкі металу з медным адлівам. Гэта была расцісnутая медная пасудзіна...

Побач ляжала мноства цьмяных, непрыкметных, вельмі тонкіх кружочкаў, якія нагадвалі расплюшчаныя піўныя коркі.

Доўга вандравалі гэтыя «кружочкі» па руках жыхароў Смаргоні, пакуль адзін з іх не трапіў на вочы дырэктару мясцовага музея М. Майсіевічу. Як потым пацвердзілі прыехаўшыя з Мінска спецыялісты, імі аказаліся арабскія дырхемы — чаканкі, як маркуецца, IX—X стагоддзяў — з серабра высокай пробы.

Мікалай СТАШКЕВІЧ

# ЗА КІМ ПАЙШОЎ НАРОД

## (РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ Ў 1917 ГОДЗЕ)

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 35, 36).**

Для дасягнення сваіх мэт яны скарыстоўвалі розныя дробнабуржуазныя партыі, у тым ліку і Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), якая адрадзіла сваю дзейнасць пасля звяржэння самадзяржаўя. Яе сацыяльную аснову складалі сяляне, сярэднія гарадскія слаі, інтэлігенцыя. За межамі Беларусі ў арганізацыі БСГ рынуліся бежанцы, якія апынуліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Па сацыяльнаму складу гэта былі ў асноўным сяляне. Уведзеныя ў зман праграмнымі ўстаноўкамі БСГ, яны спадзяваліся, што гэта партыя будзе абараняць іх інтарэсы. Але гэта былі ілюзіі не дасведчаных у сацыяльнай дэмагогіі людзей.

У Петраградскай і Маскоўскай арганізацыях БСГ пераважалі рабочыя. У яе кіруючае ядро ўваходзілі В. Адамовіч, П. Бадунова, Я. Жылуновіч, І. Варанко, С. Рак-Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч і інш.

Па палітычных і сацыяльных імкненнях блізка да БСГ стаяла і так званая Беларуская народная грамада (БНГ), якая ўзнікла ў маі 1917 года ў Маскве. Лідэрамі гэтай арганізацыі былі А. Цвікевіч, І. Васілевіч, А. Прушынскі (А. Гарун), Ф. Турук.

Для БСГ і БНГ, як і іншых арганізацый падобнага тыпу, была характэрна ідэалогія дробнабуржуазнага нацыяналізму. У адрозненне ад буржуазных нацыяналістаў, якія прапаведавалі тэорыю адзінства беларускай нацыі, катэгарычна адмаўлялі класавую барацьбу, БСГ і ёй падобныя партыі прызнавалі класавую барацьбу і сацыяльную рэвалюцыю. У рэзалюцыі, якая была прынята ў сакавіку 1917 года на канферэнцыі БСГ, напрыклад, указвалася: «Пралетарыят і працоўнае сялянства павінны быць гатовы даць адпор рэакцыйным спробам пануючых класаў, для чаго яны павінны арганізавацца на аснове класавай барацьбы». У праекце праграмы БСГ сваю канчатковую мэту сфармулявала так: «Увядзенне сацыялістычнага парадку праз развіццё класавай барацьбы і сацыяльную рэвалюцыю». Аднак гэтыя заявы не падмацоўваліся рэальнымі дзеяннямі. На першы план яна вылучала нацыянальнае пытанне, лічыла, што спачатку неабходна вырашыць задачы нацыянальнай, а затым ужо сацыяльнай рэвалюцыі. Менавіта ў гэтым праявілася дробнабуржуазнае імкненне БСГ і іншых аднатыпных партый да нацыянальнай абмежаванасці, да замкнёнасці.

Дробнабуржуазная нацыяналістычная накіраванасць гэтых партый была абумоўлена выключна аграрным характарам развіцця эканомікі Беларусі. І гэта было заканамерна. У. І. Ленін пісаў, што «чым больш адсталай з'яўляецца краіна, тым мацней у ёй дробная земляробская вытворчасць, патрыярхальнасць і адсталасць, якія немінуча вядуць да асобай сілы і ўстойлівасці самых глыбокіх з дробнабуржуазных забабонаў, менавіта: забабонаў нацыянальнага эгаізму, нацыянальнай абмежаванасці».

Імкненне вырашыць нацыянальнае пытанне ў адрыве ад класавых інтарэсаў працоўных вяло БСГ і іншыя дробнабуржуазныя арганізацыі да аб'яднання з буржуазнымі нацыяналістычнымі партыямі. Гэта палітыка БСГ асабліва канкрэтна праявілася на з'ездзе «беларускіх дзеячаў», які праходзіў у Мінску ў сакавіку 1917 года. З'езд абмеркаваў «агульнанацыянальную палітычную праграму» і выбраў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК). Старшынёй камітэта стаў ужо ўпамянуты намі буйны памешчык Р. Скірмунт. Удзельнікі з'езда падтрымалі ўнутраную і знешнюю палітыку Часовага ўрада, яго дзеянні, накіраваныя супраць рэвалюцыйнага руху. У прынятай дэкларацыі выказвалася надзея «на блізкае ажыццяўленне аўтаномнага ладу ў Беларусі». Унутраным перакананнем нацыяналістаў і сапраўднай мэтай іх руху было стварэнне незалежнай беларускай буржуазнай нацыянальнай дзяржаўнасці. Але кіраўнікі БНК тады адкрыта патрабаваць гэтага яшчэ не адважваліся. Яны, па-першае, разумелі, што такі план будзе адразу ж адхілены Часовым урадам, а па-другое, ім не ўдалося аб'яднаць буржуазію, памешчыкаў, кулакоў пад лозунгам нацыянальнага самавызначэння. Потым адзін з дзеячаў правага крыла беларускага нацыяналізму Антон Луцкевіч заявіў, што, дабіваючыся аўтаноміі Беларусі ў граніцах Федэратыўнай Расійскай Рэспублікі, [illegible]эрускія нацыяналістычныя [illegible]оўкі ў 1917 годзе не маглі вылучаць «нешта большае, таму што нават найбольш моцная Украіна не магла адкрыта гаварыць аб дзяржаўнай незалежнасці, хаваючы свае палітычн[illegible] ідэалы пад маскай аўтаном[illegible] Толькі ў найбольш канспіратыўных беларускіх гуртках ішла размова аб шырокіх палітычных ідэалах».

Ды і шырокія масы працоўных, асабліва сялянства, не праявілі вялікай зацікаўленасці да заклікаў нацыяналістаў дабівацца аўтаноміі Беларусі. Складвалася, здавалася б, парадаксальная сітуацыя: працоўныя класы стагоддзямі прыгнечанай нацыі страчвалі цікавасць да нацыянальнага самавызначэння. Але такая пазіцыя народных мас была абумоўлена аб'ектыўнымі прычынамі: блізкасцю да рускага народа па мове, культуры, быту, гісторыі, рэлігійнымі супярэчнасцямі (каталікі, праваслаўныя, іудзеі) і, нарэшце, асаблівасцямі фарміравання беларускай нацыі ў рамках Расійскай імперыі.

Нацыянальнае пытанне ў Беларусі не магло стаць галоўным пытаннем рэвалюцыі яшчэ і таму, што тут нацыянальны рух узнік са спазненнем і развіваўся ў абстаноўцы глыбокіх сацыяльных канфліктаў, вострых класавых узрушэнняў і бітваў. У краіне заставаліся нявырашанымі больш важныя праблемы, а для народных мас галоўнае значэнне мела пытанне аб тым, у чыіх руках будзе знаходзіцца ўлада.

Зразумела, такое становішча вымушала буржуазна-нацыяналістычныя партыі і арганізацыі больш тонка лавіраваць. Не маючы апоры сярод працоўных мас, нацыяналісты сталі вылучаць на першы план у кіраўніцтве нацыянальным рухам Беларускую сацыялістычную грамаду. Сацыялістычная шыльда гэтай партыі павінна была памагчы ёй авалодаць рэвалюцыйным рухам рабочых і сялян. К лету 1917 года БСГ колькасна ўзрасла, значна расшырыла свой уплыў на інтэлігенцыю, частку сялянства, асабліва заможныя слаі, чыноўнікаў, салдат. У яе арганізацыі ўваходзілі і рабочыя. Як ужо адзначалася, вялікі працэнт рабочых быў у Петраградскай арганізацыі БСГ, якая налічвала больш тысячы членаў. Яе арганізацыі актыўна дзейнічалі ў Мінску, Петраградзе, Маскве, Бабруйску, Віцебску, Саратаве, Адэсе, Слуцку, Гомелі, у многіх паветовых цэнтрах Беларусі, у частках Заходняга фронта. У 12-й арміі (Паўночны фронт) яна налічвала 1 000 членаў, на Балтыйскім флоце — 800. Да восені 1917 года БСГ аб'ядноўвала ў сваіх радах 10 тысяч членаў. Прадстаўнікі БСГ Д. Жылуновіч, П. Бадунова ўваходзілі ў склад Петраградскага Савета.

Аднак БСГ не змагла павесці за сабой працоўныя слаі нацыі. Яна не была той сілай, за якой ішоў беларускі народ. Пад уплывам росту рэвалюцыйнай барацьбы працоўных у БСГ, як і ў іншых дробнабуржуазных партыях, праходзіў працэс палітычнай дыферэнцыяцыі — выкрышталізоўваліся левыя групы. Яны аформіліся ў Петраградскай, Віцебскай, Бабруйскай арганізацыях БСГ. І левая плынь Грамады была слабай, яшчэ не магла аказаць эфектыўнага процідзеяння правым элементам, якія змыкаліся з буржуазнымі нацыяналістычнымі арганізацыямі, між тым вакол яе ішоў інтэнсіўны працэс аб'яднання сялян, дэмакратычнай інтэлігенцыі, саматужнікаў, часткі рабочых-беларусаў, занятых на фабрыках і заводах Петраграда і Масквы. Аб'ектыўнай асновай развіцця і ўзмацнення гэтай плыні было імкненне працоўных ліквідаваць сацыяльны прыгнёт, дабіцца вырашэння нацыянальнага пытання рэвалюцыйным шляхам.

Пасля ліпеньскіх падзей — расстрэл дэманстрацыі ў Петраградзе — у беларускім нацыянальным руху яшчэ ў большай ступені паглыбілася класавая і палітычная дыферэнцыяцыя. У ім ясна вызначыліся два напрамкі: буржуазна-нацыяналістычны і рэвалюцыйна-дэмакратычны. Буржуазнаму сепаратысцкаму напрамку процістаяў рэвалюцыйна-дэмакратычны нацыянальны рух, які ўсё бліжэй і цясней зліваўся з дэмакратычнай барацьбой народных мас за зямлю і мір, з барацьбой пралетарыяту за сацыялістычную перабудову грамадства. Усё гэта сведчыла аб тым, што буржуазія страчвала свой уплыў у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Стварэнне Беларускай рады на ліпеньскім з'ездзе нацыяналістаў не ўмацоўвала іх становішча. Адзін з лідэраў левай плыні беларускага нацыянальнага руху А. Чарвякоў нават гэтага пісаў: «Нацыяналістычныя сілы шукалі ў той час магчымасць забяспечыць сабе панаванне, пакуль што ў межах «дэмакратычнай» Расіі... Яны імкнуліся стварыць агульнанацыянальны беларускі фронт, замацаваць праз гэта сваю кіруючую ролю, каб потым ужо больш канкрэтна паставіць пытанне аб «суверэнных правах» беларускага народа, а гэта значыць, аб правах нацыянальнай буржуазіі на панаванне над народам». Аднак гэтыя задумы нацыяналістаў не апраўдаліся, як не мела поспеху ў працоўных мас і БСГ, якая спрабавала ўзяць на сябе кіраўніцтва беларускім нацыянальным рухам.

У новых гістарычных умовах нацыянальнае пытанне магло быць вырашана толькі пад кіраўніцтвам пралетарыяту, і таму бальшавікі Беларусі, кіруючыся ўказаннямі У. І. Леніна аб неабходнасці барацьбы «за выкарыстанне ў мэтах сацыялістычнай рэвалюцыі ўсіх нацыянальны[illegible]хаў...», улічвалі гэта ў сваё[illegible]ктыцы і імкнуліся накіраваць беларускі нацыянальна-вызваленчы рух у агульны паток рэвалюцыйнай барацьбы. Па меры выхаду бальшавікоў з «аб'яднанак» і стварэння [illegible]стойных арганізацый яны ўс[illegible]ольш і больш удзялялі ўвагу ўзрастаючаму беларускаму нацыянальна-вызваленчаму руху.

У процівагу вялікадзяржаўнай палітыцы Часовага ўрада меншавікоў і эсэраў бальшавікі падтрымлівалі дэмакратычныя пераўтварэнні, за якія змагаліся шырокія працоўныя масы Беларусі. Гэтыя настроі не магла ігнараваць Цэнтральная беларуская рада, якая аб'ядноўвала нацыянальныя палітычныя арганізацыі і партыі ў адзіны блок. У сувязі з гэтым бальшавікі выкрывалі класавую сутнасць Рады, але падтрымлівалі дэмакратычныя патрабаванні нацыянальных непралетарскіх партый. Яны нярэдка ішлі на сумесныя выступленні, кантакты, прыватныя пагадненні з нацыянальнымі дробнабуржуазнымі партыямі, асабліва іх левымі групоўкамі.

Па меры таго, як у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху ўзмацнялася палярызацыя класавых сіл, бальшавікі ўсё часцей сталі шукаць кантактаў з нізамі, радавымі членамі дробнабуржуазных нацыянальных партый, якія адлюстроўвалі рэвалюцыйна-дэмакратычныя настроі сялян і прагрэсіўнай інтэлігенцыі.

Да восені 1917 года ў БСГ паскорыўся працэс размежавання левай і правай плыняў, перадумовы якога наспявалі ўжо з моманту яе адраджэння. У перыяд нарастання рэвалюцыі ад БСГ адкалолася частка рэвалюцыйна настроеных членаў з петраградскіх рабочых— беларусаў і матросаў Балтыйскага флоту. Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі яны стварылі Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю (БСДРП). У далейшым савецкая газета «Дзянніца», расказваючы аб БСДРП, пісала, што «з першых дзён рэвалюцыі многія рабочыя Петраграда, уваходзячы ў агульнарасійскія партыі, сталі ўтвараць свае нацыянальныя арганізацыі. Беларускія сацыял-дэмакраты (прадстаўнікі левага крыла БСГ) аб'ядналіся і стварылі некалькі сваіх арганізацый у Нарвскім, Ліцейным і Неўскім раёнах. Гэтыя арганізацыі цалкам прынялі праграму РСДРП (бальшавікоў), падзялілі таксама і тактыку гэтай партыі». У кіруючае ядро БСДРП увайшлі А. Чарвякоў, А. Усціловіч, І. Лагун, А. Гурыновіч і іншыя. Яна аб'яднала каля 700 членаў, мела сваіх прадстаўнікоў у Петраградскім Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а таксама ў Пецяргофскім раённым Савеце.

Ад БСГ таксама арганізацыйна адасобілася левая плынь, якая аб'ядноўвала Петраградскую, Маскоўскую і Бабруйскую арганізацыі. Іх кіруючым цэнтрам стаў Петраградскі камітэт БСГ. Але палітычная лінія левых не была паслядоўнай. Яны лічылі, што ў Беларусі ўлада павінна належаць працоўнаму народу ў асобе Краявой рады. Што тычыцца праграмы БСГ, то левая плынь нічога прынцыпова новага не магла ўнесці ў яе змест. Усё заставалася на народніцкіх пазіцыях. Але ў сваёй практычнай дзейнасці левыя падтрымлівалі рэвалюцыйны рух, вялі актыўную барацьбу супраць буржуазнага нацыяналізму. Такая пазіцыя давала магчымасць бальшавікам выкарыстоўваць іх у барацьбе з нацыяналістычнымі партыямі і арганізацыямі. Праз БСДРП, якая выйшла з БСГ, яны імкнуліся арганізацыйна замацаваць свой уплыў сярод членаў левага крыла гэтай партыі. Па сутнасці БСДРП выкарыстоўвалася бальшавікамі як пераходная ступень для радавых членаў дробнабуржуазных нацыянальных партый да ўспрыняцця рэвалюцыйных ідэй. Можна сказаць, што гэта быў пошук форм і метадаў барацьбы за адрыў ад нацыяналістычных партый рабочых, сялян, салдат, пошук сродкаў разлажэння гэтых партый, якія мелі яшчэ сацыяльную апору ў Беларусі.

Восенню 1917 года буржуазна-нацыяналістычныя партыі аказаліся ў поўнай ізаляцыі. Яны страчвалі апору ў нацыянальным руху. Рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ўсё бліжэй і цясней злучаўся з рабочым рухам, з барацьбой за звяржэнне ўлады буржуазіі. Асноўныя яго сілы — рабочыя, сяляне, перадавая інтэлігенцыя — былі на баку ленінскай партыі, бо яна паслядоўна і стойка змагалася за рэвалюцыйнае рашэнне ўсіх задач, якія хвалявалі шырокія працоўныя масы. Напярэдадні Кастрычніка беларускі нацыянальны рух развіўся пад непасрэдным уплывам рабочага класа і яго партыі бальшавікоў менавіта таму, што бальшавікі, а не буржуазныя нацыяналістычныя партыі адлюстроўвалі іх карэнныя класавыя і нацыянальныя інтарэсы.

ВАС ЭТО ИНТЕРЕСУЕТ

# КУЛЬТ ЛИЧНОСТИ СТАЛИНА: ЧТО В ИСТОКАХ?

Мера совести — это и мера памяти. Необходимо серьезное исследование прошлого во всей его полноте. Я полагаю, что назрело время, когда мы должны отказаться от упрощенных представлений о воздействии культа личности Сталина и его последствий на природу советского строя.

Эти представления берут свое начало в тот период, когда под природой социализма понимался узкий набор его черт, притом определенных раз и навсегда. Иначе говоря, природа социализма рассматривалась не в развитии, в обогащении качеством, а упрощенно. На каком-то этапе произошла своего рода абсолютизация сложившихся на практике форм организации общества, а сами основные характеристики социализма рассматривались как неизменные, как догмы, не оставляющие места для объективного научного анализа. «Застывший образ» социализма, естественно, приводил и к утверждению, будто его природа независима от превратностей, вроде бы непроницаема для новых явлений, которые рождает богатство жизни.

Но социализм развивается, как развивается и его концепция: нельзя смотреть на теорию нового строя как на набор религиозных догматов, а классиков научного коммунизма выдавать за их пророков. Дистиллированное и оскопленное определение социализма делало его безжизненным, а все пороки и деформации связывались лишь с субъективными просчетами да с происками империализма.

Без полной правды, без нравственной оценки собственного прошлого мы не сможем возродить идеальных устремлений общества, расширить духовные горизонты личности. Укрепить у трудящихся веру в социализм — важнейшая задача сегодняшней перестройки.

Другая крайность — объяснение почти всех негативных явлений в условиях социализма некими закономерностями, заложенными в его природе. Так, противники научного социализма ищут корни и истоки сталинских репрессий в революционной идеологии, проводят параллель между гитлеровскими зверствами и сталинскими репрессиями. Эта далеко не оригинальная точка зрения обосновывается формально общим признаком сравниваемых явлений — насилием.

Я не могу принять это сравнение. Прежде всего вызывает протест абстрактный подход к насилию как таковому, растворение его содержания в бесконечной череде исторических событий. Разве нет различий, например, между насилием бандита, террориста и насилием сопротивляющейся жертвы? Средства борьбы за человеческие условия жизни определяются не только благородством гуманистических идеалов нового строя, но и теми насильственными методами, которые употребляет против него старый, уходящий мир. Поэтому прав Ленин, писавший, что «без насилий по отношению к насильникам, имеющим в руках орудия и органы власти, нельзя избавить народ от насильников».

Октябрьская революция была не только наименее кровавой — сравнительно со всеми предшествующими революциями, — но и фактически спасла жизнь миллионам солдат, погибавших на фронтах первой мировой войны. Большевики призвали к всеобщему миру. Были освобождены министры и генералы, давшие подписку не выступать с оружием против Советской власти (и не сдержавшие своего слова). В принятом 22 ноября 1917 года Советским правительством первом декрете о суде смертная казнь отсутствовала в числе наказаний. Коммунисты призвали к созиданию, к возрождению страны, к сотрудничеству всех патриотов. В ответ они получили саботаж, белый террор, гражданскую войну, интервенцию 14 государств.

Буржуазия готова была потопить в крови восставшую «чернь», любыми средствами задушить революцию. И эта схватка привела к суровому выводу, сделанному на первом конгрессе III Интернационала: «Требовать от пролетариата, чтобы он в последней схватке, не на жизнь, а на смерть, с капиталом благочестиво соблюдал требования политической демократии, — то же самое, что требовать от человека, защищающего свою жизнь и существование против разбойников, чтобы он соблюдал искусственные условия и правила французской борьбы, установленные его врагом и этим врагом не соблюдаемые».

И уж если нужны сравнения, то с чем сопоставить масштабы второй мировой войны — гибель 50 миллионов человек, страдания многих сотен миллионов? Античеловеческий характер нацизма приобрел глобальный характер. Он ставил целью уничтожение многих «неполноценных», «низших рас».

Для Ленина террор — вынужденная и временная мера, он писал, что нужно «ограничить его минимальнейшим минимумом». И подчеркнем: добиваясь порядка, Ленин требовал, чтобы в случае нарушения законов коммунистами к ним применялась «тройная кара» против кары беспартийным.

После смерти Ленина роль государственного аппарата еще более возросла. Необходимость укрощения мелкобуржуазной стихии, попытки реставрации капитализма (внутри и извне), отсутствие демократической культуры и политического опыта в массах, страстная ненависть к прошлому и радикализм в переделке мира, многовековая традиция подчинения деспотизму и его мифологизация, изрядная доля утопических представлений о социализме и самое абстрактное понимание путей его строительства, потребность в быстрой индустриализации, угроза войны—все это способствовало гипертрофированию определенных государственных институтов. Репрессивный аппарат, защищавший народ от внутренних и внешних врагов, создавал одновременно и опасность узурпации власти.

Постепенно культ государства стал культом личности Сталина. Он был на вершине иерархической пирамиды. Был персонификацией не только социалистического государства, но и всех его достижений, всего его прошлого, настоящего и будущего. В Сталине разрушительная сила абсолютной власти нашла свое предельное воплощение. Личность стала мифом, а миф обрел силу реальности.

Историкам предстоит еще отсортировать то значительное и полезное для социализма и страны, что сделано при Сталине, от того, что сделано им во вред социализму. Вряд ли, по-моему, правы те, кто полагает, что индустриализация, коллективизация и разгром фашизма — бесспорные достижения социализма — нивелируют просчеты и вину Сталина. Во-первых, достижение невозможно оторвать от его «себестоимости». Во-вторых, достигнутое — результат воли и труда миллионов коммунистов и беспартийных. Это результат реализации великих идеалов социализма, хотя и немало деформированных при своем воплощении. В третьих, нет оправданий массовым репрессиям и грубейшим нарушениям социалистической законности.

Конечно, надо учитывать совокупность объективных условий, в которых возросла сталинская узурпация власти, но нельзя в них растворять и его личную вину. Не случайно Ленин предупреждал об опасности «чисто личных свойств» Сталина, о сосредоточении им в своих руках «необъятной власти». Именно поэтому Ленин настаивал на замене его на посту Генерального секретаря.

Идущее в СССР очищение от деформаций свидетельствует о глубине корней, безусловно уходящих в 30-е и 40-е годы, к наследию культа личности. С другой стороны, это же очищение внушает и исторический оптимизм, веру в далеко не исчерпанные творческие возможности социализма.

Я не могу согласиться с тезисом о том, что культ личности закономерен, а его пороки — следствие коммунистической идеи. Основные причины этого явления—не в социалистическом идеале, а в прошлом (экономическом, политическом, культурном, социально-психологическом) стран, вставших на путь социализма. Культ личности со всеми его последствиями — это как бы последний залп уходящего вместе с прошлым угнетения, унижения человеческого достоинства по рождающемуся в муках «царству свободы». Нельзя забывать о том, что пролетариат, как говорил Ленин, не делается «святым и застрахованным от ошибок и слабостей от того, что он совершит социальную революцию».

Виктор КИСЕЛЕВ.



# ПРОЗВЕНЕЛ ПЕРВЫЙ ЗВОНОК



**...Играет духовой оркестр, и нежные звуки вальса плывут над новой школой, ее первыми учениками и затихают вдали... Может быть, у самого синего моря.**

**И это не преувеличение: здание минской средней школы № 179, одной из 104, введенных в строй к началу текущего учебного года в республике, разместилось на самом краю микрорайона Запад. С одной стороны ее — новые многоэтажные дома, с другой — полевая даль с перелесками тянется к водохранилищу «Дрозды».**

**С каждым годом будут взрослеть и мужать сегодняшние девочки и мальчики, а вместе с ними и молодой коллектив преподавателей, который во многом составили вчерашние выпускники Минского педагогического училища № 2. Да и Валентина Абибик директором всего неделю...**

**НА СНИМКАХ: ленточку при открытии минской средней школы № 179 разрезает ее директор Валентина АБИБИК; ученица 2-го «Б» класса Юля ШКЛЯРЕВСКАЯ.**

## ОТКРЫТИЕ РАСШИРЯЕТ ПОЗНАНИЯ В ОБЛАСТИ ФИЗИКИ СВЕРХПРОВОДНИКОВ

# «АНДРЕЕВСКОЕ ОТРАЖЕНИЕ»

С недавних пор на страницах газет и журналов замелькало словосочетание «высокотемпературная сверхпроводимость». В рамках этого «бума сверхпроводимости» привлекло внимание ученых и открытие московских физиков, занесенное недавно в Государственный реестр открытий СССР, так называемое «андреевское отражение». Оно имеет непосредственное отношение к явлению сверхпроводимости.

...Даже если вы порядком забыли школьную программу по физике, то одно из железных правил природы в памяти скорее всего сохранилось: угол падения равен углу отражения. Как не запомнить, что луч света (или поток заряженных частиц), упав на гладкую поверхность, отражается от нее зеркально. Считалось, что так происходит всегда. Но группа сотрудников Института твердого тела и Института физических проблем имени Сергея Вавилова Академии наук СССР (Александр Андреев, Николай Заварицкий и др.) обнаружила, что на границе между обычным металлом и сверхпроводником заряженные частицы (электроны и дырки) отражаются совершенно неожиданным образом: при любом угле падения... точно назад. Гипотезу о подобной закономерности высказал несколько лет назад физик-теоретик член-корреспондент Академии наук СССР Александр Андреев. Однако лишь недавно, когда появились новые тонкие методы исследования, ее удалось проверить экспериментально.

Итак, под каким бы углом ни подлетела заряженная частица к границе между нормальным и сверхпроводящим металлами, она непременно вернется назад. Эта картина проста только на первый взгляд. В результате такого отражения частица, как выяснилось, меняет заряд: электрон превращается в дырку и наоборот. Столь загадочное превращение дало даже повод усомниться в законе сохранения заряда. Авторы открытия разгадали механизм превращения и убедились, что классический закон не нарушается, а кажущаяся аномалия может быть объяснена сверхпроводящим током, текущим без сопротивления в пограничном слое.

Открытие расширяет познания в области физики сверхпроводников, вновь ставших сегодня столь актуальными. Есть у него уже и практические применения. Авторы разработали метод оценки чистоты и совершенства образцов сверхчистых металлов, который намного проще и точнее ранее существовавших. «Андреевское отражение» играет важную роль в создании сверхпроводящих устройств, использующих контакты сверхпроводников с обычными металлами,—такие устройства в последние годы получили широкое распространение в научных и промышленных лабораториях.

Элла НИКОЛЬСКАЯ.
(АПН).

Васіль БЫКАЎ

# У ТУМАНЕ

## УРЫЎКІ З РАМАНА

(Працяг. Пачатак у № 35).

— Галоўнае, ты не адставай і не вытыркайся. Найлепш, каб я цябе спіной чуў. А што трэба, я сам зраблю,— сказаў Бураў, не паварочваючыся да Войціка. Той, чуваць было, зноў насцярожыўся.

— А коні?

— А што коні? Коней, калі што, патрымаеш.

— Трэба б яшчэ каго ўзяць, — гучна высмаркаўшыся на траву, гугнява зазначыў Войцік.— Трэцяга. Усё б зручней. А то што, удвух.

— Ну ты, разумны такі! — пачаў злавацца Бураў.— Чаго ж там маўчаў? Сказаў бы камандзіру: давайце трэцяга. Дык жа маўчаў?

— Маўчаў, маўчаў...— няпэўна прабурчэў Войцік і пацягнуў за повад каня, які папнуўся ў кустоўе па хамлак зялёнай травы.— Ну ты, ваўкарэзіна, не нажрэшся...

Тым часам патроху цямнела — ленавата і няпэўна; у полі яшчэ было відна, але станцыйныя дамкі па той бок рэчкі спавіліся шэрымі прыцемкамі, а высокія дрэвы ля станцыі дык і зусім ужо стуліліся ў змроку. Мусіць, можна было ехаць, бо рабілася ўсё болей сцюдзёна на гэтым ветраным узлеску, рэдкія хвоі ўгары аж гудзелі ад ветру, ды і згаладнелыя коні не хацелі стаяць — лезлі пысамі па траву ў алешнік, ненажэрна дралі яе разам з воглым зялёным мохам.

— Так. Давай памалу цераз поле на кладку,— кіўнуў галавой Бураў і завярнуў кабылку.

Коні пайшлі полем, цвякаючы капытамі ў раскіслай ад дажджу баразне. Узлесак застаўся ззаду, і ў душы ў Бурава пачала расці-разрастацца сцюдзенаватая апаска — як бы іх часам не стрэлі па той бок рэчкі, ля лазні ці на падворку, як бы не напароцца на якую халеру. Усё ж праз вярсту ад станцыі была паліцыя, чорт ведае, ці сядзіць яна зараз у сваім бункеры, можа, як і яны, гойсае дзе па вёсках, а то яшчэ і заляжа ў засаду. Ці мала яны за лета нарываліся на паліцэйскія засады. Асабліва ў вёсках, паселішчах, на прасёлках, каля мастоў і кладак. Цяпер, едучы наўпрасткі цераз поле, ён не падганяў кабылу, і тая ішла, як хацела,— зморана тупала, клюкаючы капытамі ў гразі, а ён, настаўляючы зрок, пільна ўглядаўся ў прырэчны хмызняк, туды, дзе калісьці была кладка. Праўда, хоць ён нарадзіўся тут і вучыўся, і аббегаў дзіцём усё навакольле, але з таго часу, як у калектывізацыю бацька перабраўся з сям'ёй у мястэчка, Бураў ні разу не завітаў сюды — не было патрэбы, а затым на ягоным жыццёвым шляху была вайсковая служба на Далёкім Усходзе, два перадваенныя гады ён працаваў у раёне — ганяў па дарогах палутарку. І цяпер, едучы па тутэйшых мясцінах, ён ледзьве пазнаваў іх, хоць, зрэшты, яны не надта і змяніліся. Прынамсі, узлесак, дарога і поле былі, як і некалі; калісьці ён тут пасвіў жывёлу, вазіў снапы і сена, ведаў тут кожную балацявіну, кожны грудок і сцежку.

Здаецца, аднак, у полі і ля ракі скрозь было пуста, толькі ў надрэчным лазняку варушылася на ветры непаседлівая чародка вераб'ёў, ды на плоце ля лазні пасядзела і ляніва паляцела кудысь варона. Ён ужо згледзеў там Сушчэнеў гарод з двума стажкамі каля падворка, ад лазні туды, памятаў, вяла добра ўтаптаная сцежка. Некалі падлеткам ён бегаў там, пазіраючы цераз плот на тоўстыя стручкі сушчэнінскага бобу, адно лета той сцежкай ганяў да ракі гусей. Сушчэня тады быў яшчэ дзецюком, нежанатым, увогуле спакойным хлопцам, старэйшым за яго гадоў, можа, на восем, на Бурава ён мала звяртаў увагу — у яго былі свае інтарэсы і свая хлапечая кампанія. Чамусьці тады ён нават падабаўся Бураву, можа, сваёй спаважнасцю, роўнасцю ў адносінах да іншых, сяброў і суседзяў. Хто б тады падумаў, што іхнія лёсы спакваля так недарэчна скрыжуюцца?

Але во скрыжаваліся.

Рэчка была нешырокая, з падмытымі ў паводку, здзірванелымі за лета берагамі і кладкай — дзвюма гнілаватымі дошкамі, прытопленымі канцамі ў ваду. Бураў саскочыў з кабылы, пацягнуў за повад: кабыла нязгодна тузанула галавой, нерашуча пераступіла на беразе — баялася ісці ў раку. Можа, правільна збаялася, падумаў Бураў, чорт ведае, якая тут цяпер глыбіня, вады найшло поўна, да самага берага. Але мо не ўтопіцца. Ён дужэй тузануў за повад, і сам нерашуча ступіў на прытоплены канец кладкі, кабылу ж кіраваў побач. Урэшце тая набралася адвагі, асцярожна сышла з берага і раптам апантана рванулася пярэднімі нагамі ў раку. Ён мусіў таропка пераступіць па кладцы, але тая здрадліва хіснулася пад нагамі, асела, ногі боўтнулі ледзь не да дна. Ледзьве ўтрымаўся на дошцы — повад выпусціў з рукі,— кабылка пужліва выскачыла на той бок і спынілася, атрасаючы мокрае чэрава. Моўчкі вылазячы, ён ужо нетаропка перайшоў па кладцы і падняў з травы мокры повад.

На тым беразе, не злазячы з каня, сядзеў Войцік.

— Ну што стаў? Давай конна! Тут неглыбока.

Войцік пераехаў бо[illegible]удала, конь цяжкавата ўза[illegible]ўся на бераг, і тады Войцік саскочыў, узяў з рук Бурава повад. Стоячы на адной назе, Бураў сцягнуў з другой нагі бот, выліў ваду, выціснуў мокрую дзіравую анучу.

— Не хапала яшчэ, халера...

Наперадзе і трошк[illegible]оч на рачным беразе пр[illegible]улася счарнелая ад часу і дыму крывабокая будыніна лазні з дзічкаю-грушаю ля маленькага акенца. Мусіць, за ёй можна было захінуцца, і Бураў павёў туды змакрэлую сваю кабылку. Мокрая яго нага зусім азябла, ды і другая таксама не засцераглася ад вады — дзіравыя боты цвякалі пры хадзе, трэба было б дзе пераабуцца, змяніць анучы. Калі б яны былі ў яго, тыя анучы. Але, яшчэ не дайшоўшы да лазні, ён злавіў носам знаёмы чадны пах дыму, і гэта яго ўстрывожыла. Калі ад лазні пахне дымком, дык, мабыць, там паляць ці ўжо напалілі і мыюцца—трэба ж было налезці на яе ў такі час! Але паварочваць назад, мабыць, было позна: у акенца лазні іх маглі ўжо згледзець.

Бураў зайшоў з глухога, надрэчнага боку лазні, прыслухаўся. Ад лазні дужа патыхала дымам, сажай, сухой, напаленай глінай; вугол з дзічкай густа аброс жорсткімі сцябламі малінніку. Войцік, пад'ехаўшы, таксама саскочыў з каня, і Бураў аддаў яму повад, а сам зірнуў з-за вугла на дзверы. Дашчаныя скасабочаныя дзверы лазні былі падпёрты яловым калком — значыць, унутры яшчэ не было нікога. Мабыць, толькі яшчэ збіраліся мыцца.

Войцік з натруджаным клопатам на зашчаціненым твары чакаў, што рабіць далей, і Бураў рашыў:

— Давай туды. Вунь хата. Па сцежцы...

Хата і падворак Сушчэні ўжо ледзьве цямнеліся ў вечаровай шэрасці, адтуль, ад вуліцы, лазню ўжо не надта было і згледзець, абы толькі не спаткаць каго на гэтай агароднай сцяжыне. А калі хто і спаткаецца, думаў Бураў, занятку ў яго ўсяго на хвіліну, доўга ён тут не затрымаецца. Абы не налезці на паліцыю. Але ў такі менавіта час, у шэрую гадзіну сутак, людзі яшчэ не заперліся ў хатах, корпаюцца на падворках з жывёлай, мусіць, такою парой паліцыя яшчэ не дужа глядзіць і слухае. Глядзець і слухаць яна пачынае трохі пазней. Як наўкол паглушэе.

З конямі на павадах яны прыйшлі ў канец падворка, якраз на дрывотню, мабыць, з нядаўна прывезенымі з лесу дрывамі, яшчэ не ўпарадкаванымі на зіму, якія бязладнай кучаю круглякоў ґрувасціліся ля плота. Побач валялася старое карыта, нейкія брудныя вядзёркі; прыслоненыя пад страхой да сцяны, стаялі вілы і граблі. З вуліцы дрывотні не было відаць, а ад поля яе захінаў стажок на гародзе, і Бураў, трохі паслухаўшы, аддаў повад Войціку.

— Стой тут і чакай. Калі што — я стрэльну.

— Нядоўга каб...

— Нядоўга, нядоўга.

Войцік перахапіў вераўчаны повад, а Бураў зняў з-за спіны карабін і таксама аддаў Войціку. Мабыць, карабін яму цяпер не спатрэбіцца, можна будзе ўправіцца і з наганам, які ў цвёрдай скуранай кабуры звыкла муляў у яго на сцягне. За пазухай пад шынялём у яго была круглая, бы гусінае яйка, з вострым абадком нямецкая граната — хопіць на аднаго Сушчэню. Калі іх там акажацца болей — справа, канешне, кепская. Калі болей, прыйдзецца патузацца. Ну, але як-небудзь...

Стараючыся, каб цішэй, ён прайшоў па гразкім падворку да дзвярэй у сенцы, асцярожна прыадчыніў іх за клямку і прыслухаўся. Не, быццам з хаты нікога не было чуваць, толькі дзесь у закутку рохнула свінчо; ён пераступіў парог і пачаў ціха прычыняць за сабой дзверы. Якраз у той час імпэтна расчыніліся дзверы з хаты — рослы мужчына ў чорнай ватоўцы, з хмурым, свежапаголеным тварам, без шапкі пужліва ўтаропіўся ў прыцемак сяней, мусіць, бачачы, ды не пазнаючы заходжага. То быў Сушчэня, і Бураў сцішана азваўся з цемры:

— Можна да вас?

Нахмураны твар Сушчэні амаль не змяніўся, толькі знерухомеў нейк, і ён, можа, з трохі забольшанай паўзай маўклівасці шырэй расчыніў дзверы. З пэўнаю перасцярогай у душы Бураў пераступіў і другі парог. Сушчэня зачыніў ззаду дзверы, і тады госць павітаўся. Прывітанне яго, аднак, засталося без адказу, здаецца, у хаце не было больш нікога. На краі стала смуродна бліскаў агеньчык газнічкі, за прычыненымі дзверцамі грубкі, відаць было, разгараліся дровы. У няпэўным бляску адтуль Бураў згледзеў, аднак, шчыра зацікаўлены пагляд дзіцячых вачэй—хлопчык гадоў чатырох узгробся з падлогі і, усё ўзіраючыся ў яго, патупаў насустрач. У ягоных маленькіх ручках была груба выразаная з дошкі нейкая цацка-рагулька, якою той ляскаў сабе па далоньцы.

— А ў мяне во — конік. Татка злабіў...

Малое з радаснай гатоўнасцю працягвала яму сваю цацку, і ў вачанятах яго было столькі даверу і дабрыні, што Бураў узяў цацку, няўцямна пакруціў у руках і пахваліў:

— Харошы конь.

— Мне папка і сабачку злобіць. З хвосцікам.

— З хвосцікам гэта харашо. А як цябе завуць?

— Мяне завуць Глыша. А тату Сусцэня.

— Значыць, будзеш Рыгор Сушчэня,— сказаў Бураў. Ён пашкадаваў ужо, што распачаў гэтую гаворку з дзіцём, якая, адчуваў, зусім не рабіла лягчэйшай ягоную задачу. Як бы не абцяжарвала нават тую задачу. І ён павярнуўся да гаспадара, які змярцвела стаяў ля парога.

— Сядай, што ж...— выціснуў з сябе гаспадар.— Не пазнаў спярша. Змяніўся...

— Ды, мусіць, і ты змяніўся, —сказаў Бураў і, адчуўшы раптоўнае, нейкае нязвыклае для сябе хваляванне, сеў на лаву ў прасценку. Зараз жа да яго валюхаста падбег Грышка і даверліва прыхінуўся да калена, звыкла забаўляючыся сваёй цацкай.

— А ў Лёніка ёсць патлон, — аддана зазіраючы ў твар Бурава, даверліва паведаміў ён.— Што стдаляе. Бух!

— Во як! Патроны цяпер не да рабят,— строга сказаў Бураў.

— Ды не патрон, Грыша,— зазначыў бацька.— Гільза ў яго ёсць.

— Ага, гільза.

Грыша пакінуў свайго канька і, болей зацікаўлены госцем, уклаў кароценькі пальчык у рот, пачаў разглядаць Бурава.

—А я да цябе, Сушчэня, — пасцюдзянелым голасам сказаў Бураў, трошкі адхінаючы ад сябе малога. Той, аднак, настойліва церся аб яго калена.

— І куля ў яго ёсціка,— ціха паведаміў Грыша.

— Ладна, Грышачка, ідзі на ложак, там пагуляеш,— сказаў Сушчэня і ўзяў сына пад пахі. Той крыўдліва забоўтаў нагамі, захныкаў нават, аднак бацька аднёс яго ў запечак і расслаблен[illegible]рнуўся да грубкі.

— А [illegible] ж жонка? — запытаўся Бураў.

— Жонка ў хляве. Карову доіць. Сёння во лазню пратапіў, мыцца сабраліся,— сказаў гаспадар і апусціўся на нізенькі зэдлік ля грубкі.

— Мь[illegible] гэта харашо,— сказаў Б[illegible]ў, думаючы пра іншае.

Канешне, страляць Сушчэню ў хаце было нельга, гэтае малое магло ўсё сапсаваць, бацьку трэба было кудысь вывесці — на падворак ці, можа, да лазні. Да лазні было б лепей. Праўда, стрэл маглі пачуць і на станцыі, а ім яшчэ трэба было пералазіць цераз рэчку... Лепш бы, канешне, за рэчкай. Адтуль цераз поле і — у лес. Толькі як туды яго давядзеш. А калі здагадаецца?

— Я знаў, што прыйдзеце,— сказаў тым часам Сушчэня з нейкай незразумелай пакорай у голасе, якая штосьці няўцям пакаробіла ў душы Бурава. Аднак ён не паказаў таго і амаль бадзёра зазначыў:

— Знаў? Гэта добра. Значыць, віну сваю разумееш.

— Што ж тут разумець,— развёў рукамі Сушчэня.— Ніякай жа віны не маю, во ў чым загвоздка.

— Не маеш?

— Не маю.

— А рабяты? — вырвалася ў Бурава.— Што павесілі?

— Рабят павесілі,— пагадзіўся Сушчэня і зноў абвяў з выгляду, нагнуўшы галаву долу.

Падобна было, ён нават цёрануў пальцамі вочы, але тут жа, мабыць, перасіліў сябе і выпрастаўся. Бураў, ужо лаючы сябе за нерашучасць, адчуваў, як усё болей зяблі яго мокрыя ногі. Мокрая ануча на левай назе зусім скамячылася ў боце і муляла. Мусіць, трэба было канчаць гэтыя размовы, але ён нейк нядобра расслабіўся і бавіў час, нібы баючыся пераламаць сябе на галоўнае. З запечка да яго зноў прыкаціўся Грышка.

— Дзядзя, а ў цябе наган ёсць? — спытаў ён, зноў прыхінаючыся да яго калень.

— Не, які наган? — сказаў Бураў.

— А во што гэта? — кароценькім пальчыкам ён паказаў на яго кабуру.

— Гэта так. Сумачка.

— А нашто сумачка? — дапытваўся Грыша, смокчучы свой кароценькі пальчык. Нейк неўпрыкмет ён абняў калені Бурава і ўжо ласкава, як кацяня, цёрся аб іх. Сушчэня тым часам сядзеў насупраць і не адганяў сына — ён паглыбіўся ў свае, мабыць, невясёлыя перажыванні. У той час у сенцах ґрукнулі дзверы, і ў хату не адразу, неяк запаволена, бы з ношай, увайшла жанчына з вядром, у цёплай, ваўнянай хустцы на галаве. Згледзеўшы чужога на лаве, відаць было, баязна насцярожылася, але тут жа яе ўвагу адабрала малое, якое ўжо спрабавала ўзлесці Бураву на калені.

— Грыша.

— А ў дзядзі наган ёсць. У сумачцы,— жвава паведаміў хлопчык.

На твары ў гаспадыні штосьць здрыганулася, як здрыганулася і ў душы Бурава, які адразу пазнаў у гэтай жанчыне Анэлю Крукоўскую, з якой некалі тры гады вучыўся ў тутэйшай школе. Відаць, яна пазнала яго таксама.

— Здраствуйце.

— Здраствуй, Анэля,—збянтэжана сказаў Бураў. Ён не ведаў, што тая дзяўчына стала жонкай Сушчэні, гадоў восем ён з ёй не бачыўся і нават ніколі не папытаўся аб ёй, і гэтая сустрэча сталася для яго зусім нечаканай. Але цяпер ён намогся, робячы выгляд, што паяўленне Анэлі зусім не навіна для яго, што ён усё даўно ведае. Далей, аднак, размова ў іх не пайшла, абаім штосьць замінала. Бураў дык ведаў, канешне, што, але, мабыць, здагадвалася і Анэля. Напэўна, адчувала. Тым не менш яна ўвачавідкі перасіліла сябе і нерашуча прапанавала:

— Трэба ж пачаставаць вас. Галодныя ж, мабыць?..

— Няма часу, Анэля,— сказаў Бураў і тут жа зазлаваў на *сябе: есці, канешне, дужа* хацелася. Таксама хацелася пасядзець, пагрэцца ў хатнім цяпле, пагутарыць з ветлівай, ніштаватай з твару жанчынай, якая некалі нават падабалася яму, хоць і была гады на два старэйшая за яго. Дужа карцела Бураву адагрэць азяблае за дарогу цела ці, можа, надалей адсунуць тое, дзеля чаго ён прыехаў сюды і чаму міжвольна супраціўлялася ўся яго істота. Але як было расслабляцца, як было забыцца аб тым хоць на хвіліну? Ён і так сядзеў, бы на вуголлі: недзе на дрывотні яго чакаў Войцік і, можа, па вуліцы ўжо брылі сюды паліцаі.

— Завесь акно,— ціха гукнула Анэля да мужа, а сама кінулася ў пасуднік, затым да печы, забразгала засланкай. Сушчэня таропка завесіў акно паласатай радзюжкай, што вісела збоч на цвіку, а Бураў, падумаўшы, сцягнуў з нагі мокры бот.

— Во, можа, у вас якая анучына знойдзецца? Пераабуцца.

— Ануча? Зараз.

Анэля шаснула ў запечак, чуваць было, нешта разадрала там і хутка вынесла яму дзве мяккія і нават цёплыя анучыны. Дровы ў грубцы сталі добра ўгарацца, скрозь па падлозе заскакалі барвовыя водбліскі, асвятліўшы чырвоным і без таго счырванелую ад сцюжы ступню Бурава.

— А як жа мама твая? Ці жывая? — запыталася Анэля ад печы.

— Мамы няма ўжо. Тры гады як.

— А сястра ж Феня?

— І сястры няма. Забілі вясной у Лісічанскай пушчы.

Гаспадыня тым часам паставіла на стол міску з цёплаю смажанай бульбай, ад якой ішоў такі смачны пах, што цяжка было ўтрымацца, але Бураў пераабуваўся з абыякавым да ежы выглядам — быццам сам нядаўна ад стала. Сушчэня тым часам сігануў за посцілку і паставіў ля міскі трохі няпоўную пляшку, у якой знаёма калыхалася мутнаватая вадкасць.

(Працяг будзе).

*ПАЭТ З БРАТНЯЙ ПОЛЬШЧЫ ВІКТАР ШВЕД У «ІСЛАЧЫ»*

# ЖЫЦЦЁВЫМІ СЦЕЖКАМІ

Пазванілі з Саюза пісьменнікаў БССР:

— У Доме творчасці «Іслач» адпачывае і працуе першы замежны госць—паэт Віктар Швед з Польскай Народнай Рэспублікі. Прыязджайце.

Прыехалі і... не засталі госця: ён з раніцы паехаў у Хатынь. Давялося пераносіць сустрэчу.

У «Іслачы», як у добрай сям'і, усё пра ўсіх ведаюць. Яшчэ ў холе паведамілі:

— Швед сёння з раніцы стукае на машынцы.

З-за дзвярэй нумара, дзе жыў госць, даносіліся гукі пішучай машынкі. Віктар Мікітавіч (менавіта так ён прадставіўся) дадрукоўваў рукапіс.

— Рыхтую новы зборнік, які павінен выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». А тут яшчэ намячаецца днямі творчая сустрэча з калегамі-літаратарамі... Адбіраю вершы,—Віктар Мікітавіч паказаў на ладны стос, што ляжаў на краі стала.

Я зацікавіўся. Вершы былі напісаны на беларускай мове. Падумалася: «Член Саюза польскіх пісьменнікаў, а піша па-беларуску».

— Бо я па нацыянальнасці беларус,—растлумачыў Віктар Швед.—Нарадзіўся ў невялічкай вёсцы Мора ў былым Бельскім павеце, што на Беласточчыне.

Сёння ў Польшчы пражывае каля 350 тысяч беларусаў. З іх амаль 250 тысяч—на Беласточчыне.

— Дык вось, у 1956 годзе,—працягваў Віктар Швед,—у Польшчы было ўтворана Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Тады ж яно пачало выдаваць штотыднёвік «Ніва» на беларускай мове. З першых дзён стварэння пры Таварыстве ў Беластоку літаратурнага аб'яднання «Белавежа» прымаю актыўны ўдзел у яго працы, усяляк падтрымліваю яго.

Сярод тых літаратараў, што групуюцца вакол «Белавежы»,—сем членаў Саюза польскіх пісьменнікаў. Гэта добра вядомыя і ў Беларусі Алесь Барскі, Надзея Арцімовіч і наш госць Віктар Швед...

— Выходзіць, вы практычна ўвасабляеце ў сабе еднасць двух народаў-суседзяў?

— Выходзіць так. Я беларус, а жыву ў сталіцы Польшчы з 1946 года. Там скончыў Акадэмію палітычных навук, пасля аддзяленне журналістыкі Варшаўскага універсітэта, кафедру беларускай філалогіі гэтага ж універсітэта. Вершы пішу па-беларуску, рэдагую польскія кнігі—шмат гадоў працую ў выдавецтве «Ксёнжка і веда».

У 1967 годзе ў Беластоку быў выдадзены першы зборнік Віктара Шведа «Жыццёвымі сцежкамі». У яго ўвайшлі вершы і на грамадскія тэмы, і філасофскія, вершы для дзяцей і гумарыстычныя. Пасля гэтага зборніка выйшаў другі—«Дзяцінства прыстань». Нядаўна ў Мінску ўбачыла свет яго кніжка для дзяцей. І вось зараз рыхтуе новы зборнік...

Гартаю старонку за старонкай: паэт застаецца верным асноўнай тэме—тэме любові да сваёй Айчыны. Успомнілася: «Як сказаў паэт Жыгулін: «Гэту зямлю не аддам...»

— Я люблю сваю маленькую айчыну—Беласточчыну,—усхвалявана расказваў Віктар Швед.—Аб'ехаў яе ўздоўж і ўпоперак. Часта сустракаюся са сваімі землякамі-беларусамі.

І тады нараджаюцца такія радкі:

**Я рос і вырас на айчыннай**
**глебе,**
**Карэнні тут глыбока**
**запусціў,**
**Карміўся тут сваёй Айчыны**
**хлебам,**
**Хлеб гэты ўласным потам**
**акрапіў.**

Слухаеш і быццам бачыш дарагія краявіды паэтавай зямлі, дзе прайшло яго маленства. А словы верша набываюць асаблівы сэнс, бо націск тут зроблены менавіта на галоўныя ў чалавечым жыцці каштоўнасці: працу, сумленне, любоў...

Паэт прызнаецца ў шчырай любові да роднага краю:

**І заўсёды будзе блізкім,**
**Што спазнаў я тут.**
**Ты—жыццё маё, калыска,**
**Мілы, родны кут.**

А пачынаецца гэты ланцужок з самага блізкага чалавека—маці. З якой пяшчотай паэтызуецца ў Віктара Шведа маці: добрая, ласкавая, душэўная, чуйная...

Не мог паэт абмінуць у сваёй творчасці і тэму нараджэння новага свету. У яго ёсць цэлая нізка вершаў, прысвечаных Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Адзін з іх—«Першы стрэл Аўроры». Верш прысвечаны нашаму земляку Якубу Мартынюку з вёскі Новае Бярозава, былому матросу-гальванёру з легендарнага крэйсера «Аўрора».

**Глядзеў ён на Зімні і думаў**
**аб долі...**
**Ці ведаў? Здаецца, наўрад**
**Якую мецьбудзе ў гісторыі**
**ролю**
**Той першы сігнальны**
**снарад...**

— Дарэчы, пасля гэтага майго верша,—расказваў Віктар Швед,— Якуб Мартынюк атрымаў ордэн Леніна. За ўдзел у рэвалюцыйных падзеях. А было гэта так. Напісаў я верш. Мяне выклікалі ў ваяводскі партыйны камітэт і сказалі: «Гэта твая творчая фантазія». А я адказаў: «Не, гэта факты. Вы можаце праверыць». Праверылі, і ўсё пацвердзілася: Якуб Мартынюк быў гальванёрам на «Аўроры».

Адштурхнуўшыся ад канкрэтнага факта, Віктар Швед звычайна пераходзіць да абагульнення, паглыбляючы мастацкае асэнсаванне далёкіх і блізкіх падзей. Вялікі Кастрычнік даў дзяржаўную незалежнасць нашым народам—беларускаму і польскаму. Многа агульнага ў лёсах гэтых народаў і ў больш блізкай гісторыі. І беларусы, і палякі вельмі пацярпелі ад фашысцкага нашэсця. Гэта наш боль, наша памяць.

— У Беларусі,—гаварыў Віктар Швед,—ёсць мемарыяльны комплекс «Хатынь», узведзены на месцы адной з 627 беларускіх вёсак, якія былі ў гады вайны знішчаны гітлераўскімі акупантамі, знішчаны з усімі жыхарамі-вяскоўцамі. Сёння званы Хатыні перагукаюцца са званамі польскай вёскі Райск, 149 жыхароў якой былі расстраляны гітлераўцамі 16 чэрвеня 1942 года за супрацоўніцтва з партызанамі.

Але не толькі ўспамінамі жыве Віктар Швед. Яго хвалююць нялёгкія і няпростыя праблемы нашага часу. Ён вельмі любіць сваю Беласточчыну. І як сапраўдны інтэрнацыяналіст, шчыра апявае тыя пераўтварэнні, што адбыліся ў сацыялістычнай Польшчы. З нязменным захапленнем піша ён пра паездкі ў Беларусь, Маскву. Інтэрнацыяналізм не нараджаецца на пустым месцы. Дружба польскага і савецкага народаў закладвалася і мацуецца ў сумеснай барацьбе, у працы, у стварэнні і пераадоленні агульных цяжкасцей, сцвярджае Віктар Швед у сваіх вершах.

Мне давялося прысутнічаць на творчай сустрэчы Віктара Шведа з беларускімі калегамі-літаратарамі ў Доме творчасці «Іслач». Там даведаўся, што сваю літаратурную працу наш зямляк спалучае з актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён член Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, член Усепольскага камітэта міру. Мае званне заслужанага дзеяча культуры ПНР.

**Уладзімір ВЯРХОЎСКІ.**

## НАШ КАЛЯНДАР

*АЛЕСЮ АДАМОВІЧУ 60 ГАДОЎ*



У адрозненне ад звычайнага для большасці беларускіх літаратараў пасляваенных гадоў статуса — інтэлігента з сялян, у А. Адамовіча былі некаторыя перавагі: ён рос у сям'і сельскіх медыкаў. У пятнаццаць гадоў ён стаў добраахвотным памочнікам маці-падпольшчыцы. У шаснаццаць пайшоў у лес, у партызаны. Алесь сталеў хутчэй за многіх аднагодкаў, нават ваеннае ліхалецце не змагло затармазіць рух яго даравітай натуры.

Пераскокваючы праз класы, паступіў у 1945 годзе на філфак Белдзяржуніверсітэта, бліскуча скончыў яго, прадоўжыў вучобу ў аспірантуры.

У дваццаць пяць — кандыдат філалагічных навук, у трыццаць пяць — доктар, выкладчык Маскоўскага і Беларускага універсітэтаў, вядомы пісьменнік і вучоны, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

Стаўшы ўжо вядомым пісьменнікам, вучоным-літаратуразнаўцам, літаратурным крытыкам, Алесь Адамовіч не спыніўся на дасягнутым. Разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам ён «пайшоў у народ», каб запісаць страшныя расказы цудам уцалелых людзей з соцень беларускіх Хатыней. Чатыры гады пайшло толькі на тое, каб аб'ехаць усе куткі Беларусі, адшукаць жывых сведак гітлераўскіх злачынстваў супраць чалавецтва, выслухаць трагічныя гісторыі, што ўзрушвалі сваёй праўдай, і стварыць кнігу «Я з вогненнай вёскі...», аналагаў якой у свеце няма. А потым былі такія ж расказы ленінградцаў, якія перажылі блакаду, сабраныя разам з Даніілам Граніным у «Блакадную кнігу», мастацка-дакументальныя кнігі «Хатынская аповесць» і «Карнікі».

Веданне таго, чым людзі жывуць, аб чым яны ніколі не забудуць, чаго яны чакаюць, дапамагае пісьменніку быць верным абранаму шляху. Гэтае веданне, падмацаванае шырокімі навуковымі пошукамі ў галіне гісторыі нацыянальнай літаратуры, гарачым удзелам ў справах агульнасаюзных, дазволіла Адамовічу сканцэнтравацца на пякучых праблемах ядзернай эры, якая паставіла чалавецтва перад бяздоннем небыцця.

А. Адамовіч — адзін з найбольш смелых і аператыўных вучоных, якія дапаўняў карціну развіцця беларускай літаратуры імёнамі незаслужана забытых пісьменнікаў.

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння А. Адамовіч узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**У мінскім Палацы мастацтва адбыліся тры цікавыя персанальныя выстаўкі — Л. Панамарэнкі, Э. Фокінай і Я. Бусла.**

**Я. Бусел працуе ў асноўным як сатырык. З 1964 года ён супрацоўнічае з часопісам «Вожык», дзе пастаянна з'яўляюцца яго шаржы і малюнкі. За ўдзел у міжнароднай выстаўцы «Сатыра ў барацьбе за мір» у 1977 годзе мастак быў узнагароджаны медалём Савецкага камітэта абароны міру.**

**Вялікую ўвагу надае плакату. У галіне станковай графікі Я. Бусел працуе ў тэхніцы акварэлі і лінарыту. Вельмі часта ў творчасці звяртаецца да вобразаў фальклору.**

**Значная частка работ Я. Бусла, прадстаўленых у экспазіцыі,— гэта графічныя серыі, якія створаны па матывах твораў беларускіх пісьменнікаў, ілюстрацыі да беларускіх народных песень і прымавак.**

**Асноўная прыхільнасць Эмы Фокінай — мастацкая апрацоўка фарфору і фаянсу. З 1964 года яна ўдзельнічае ў выстаўках.**

**Гледачы ўбачылі на выстаўцы камплекты посуду, вазы, дэкаратыўныя талеркі, выкананыя Э. Фокінай.**

**З імем Леаніда Панамарэнкі звязаны пачатак развіцця сучаснай беларускай керамікі. Ён адзін з першых у рэспубліцы мастакоў-керамістаў, які стала развівае традыцыі беларускай народнай пластыкі, дае ёй новае жыццё.**

**Ужо першыя творы, выкананыя Леанідам Панамарэнкам у тэракоце, сталі прыкметнай з'явай у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве Беларусі.**

**На пачатку 1960-х гадоў мастак працуе на Мінскім фарфоравым заводзе, Івянецкай фабрыцы мастацкай керамікі, удзельнічае ў адраджэнні бытавой, вытворчай керамікі.**

**Арыгінальныя дэкаратыўныя вазы з абпаленай чырвона-карычневай гліны, камплекты ўжытковага посуду, кампазіцыі размалёвак на белай фаянсавай і чырвона-вохрыстай гліняной плітцы вельмі спадабаліся шматлікім наведвальнікам выстаўкі, якія пакінулі ў кнізе водгукаў цёплыя словы ўдзячнасці майстру.**

**НА ЗДЫМКАХ: Я. БУСЕЛ. «Лепшая вадзіца з роднай крыніцы»; Э. ФОКІНА. «Мой родны горад»; Л. ПАНАМАРЭНКА. «Зязюля».**









